


Беластоцкія зухі на ганаровай варце ля Помніка героям Беластоцкай зямлі.
Фота А. Хоміч.

№ 21 (1189) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 25.V.1980 г.

Эдзі Агняцвет

# Слова пра маці

Раней за ўсіх яна ўстае,
Пазней за ўсіх кладзецца.
Яна жыве, яна пяе, —
І дзецям лепш пяецца.

Ты рос, як цёплы каласок,
Пры месяцы і зорах.
Пачуеш мілае „сынок“,
Хоць будзе і за сорак...

Каб не тужыла па начах, —
Ей падрастай на ўцеху!
Хай будзе ў матчыных вачах
Пабольш іскрынак смеху!

Ты не шкадуй ласкавых слоў
Для роднай, для адзінай.
Адказвай маці на любоў —
Будзь верным, добрым сынам!

Н. Парукаў

# Любімая песня

Бабка Маруся навучыла сваю маленькую ўнучку Олю спяваць песню пра маму. Цэлы дзень, з раніцы да вечара, малышка толькі і ведала, што спявала на ўвесь голас, дзе б ні знаходзілася — ці то ў хаце, ці то на вуліцы, — адну і тую ж песеньку:

МАМУ МІЛУЮ СВАЮ
Я ШКАДУЮ І ЛЮБЛЮ.
УВЕСЬ СВЕТ ХОЦЬ АБЫСЦІ —
ЛЕПШАЙ МАМЫ
НЕ ЗНАЙСЦІ!

Калі Оля праспявала ўпершыню гэту песню сваёй маме, тая абняла дзяўчынку і моцна-моцна пацалавала.

— Мая песня лепшая за ўсе. Праўда, мама? — спытала Оля.

— Праўда, дачушка.

Мінула некалькі дзён. І вось прыходзіць Оля з вуліцы ў слязах.

— Чаму ты плачаш, унучка? Хто цябе пакрыўдзіў? — пытаецца бабка Маруся.

— А чаму Ірка маю песню спявае сваёй маме? — адказала дзяўчынка, выціраючы заплаканыя вочы.

— А хіба ты ўжо сваю любімую песню забыла? Спяваць не ўмееш? — пацікавілася бабка Маруся.

— Умею, — ціха адказала ўнучка.

— Ну, дык чаго румзаеш? Цяпер вы з Ірай разам можаце спяваць песню, — заўважыла бабка Маруся. — Магчыма, і твае сяброўкі Валя з Любай таксама захочуць навучыцца спяваць яе.

— Дык яны ж ужо спяваюць, — усхліпнула дзяўчынка і дадала. — Іх навучыла спяваць Ірка.

— Добрую песню ўсе хочуць спяваць. І кожны лічыць яе сваёй любімай песняй, — з лагоднай усмешкай сказала бабка Маруся. — І не трэба за гэта злавацца. Наадварот — трэба радавацца.

# ХІТРАЯ САВА І РАЗУМНЫ КРОТ

Днём страшная Сава спала ў хаце-дупле, а як прыходзіла ноч, лавіла мышэй. Урэшце надакучылі ёй мышы. Можа, жартам, а можа, усур'ёз сказаў ёй аднойчы лясны сябар Пугач, што смачней за ўсё краты. Але як упаляваць Крата, як яго злавіць? Не раз бачыла Сава тлустага Крата ў аксамітным футры, але той адразу ж знікаў у кватэры-нары і не выходзіў з яе, бо добра ведаў Савіны нораў: пакажашся ёй на вочы, зловіць і раздзярэ на шматкі.

Каб злавіць Крата, Сава пусцілася на хітрыкі. Садзілася яна на Кратовым ганку і лагодным голасам клікала Крата да сябе.

— Мілы мой суседзе! Выйдзі на хвіліначку, я хачу з табою пагаварыць. Гэта ж Сарока-балбатуха мне казала, што ты вельмі багаты, але некультурны. Вопратка ў цябе аксамітная, а ты ў час абеду выціраеш губы рукавом. Ды яшчэ казала Сарока, што ты не ўмееш відэлец і лыжку трымаць, што пасуда ў цябе брудная. А ці праўда, што ў цябе радыёпрыёмнік стаіць на прыпечку? Сарока казала, што тэлевізар у цябе пад сталом і ты яго не ўмееш пераключаць. Ці праўда гэта?

Крот спакойна адказаў Саве праз дзверы:

— Не дакучай, старая. Будзеш тут тырчаць, дык пазаву Арла, ён абскубе цябе, а я зраблю з пер'я пярыну і буду спаць на ёй з усёй сям'ёю.

Сава зноў знікла. А яшчэ праз ноч яна папрасіла Сыча, каб той дапамог ёй злавіць Крата.

Прыляцеў Сыч да Кратовых дзвярэй і заікастым голасам клікча Крата:

— Я-я вядомы лясны ма-астак, хачу-чу-чу на-пісаць твой партрэт і выставіць у ля-лясным музеі. Выйдзі, паважаны к-крот, я ўміг-міг напішу па-партрэт.

— Добра, — кажа Крот. — Я толькі пераапрануся. Пачакай.

Пайшоў Крот у адзін са сваіх пакояў, сабраў старыя анучкі, узяў на кухні палена, абкруціў яго гэтым шмаццём і прынёс да дзвярэй.

— Паважаны мастак Сыч, я ўжо выходжу, сустракай мяне, — сказаў Крот і высунуў чучала.

Як схопіць Сава чучала, як закрычыць на ўвесь лес ад радасці. Прыляцела яна дадому, села на ганак і разглядае здабычу. Дык што ж гэта? Анучкі, а ў іх палена.

Савіныя суседзі аж заходзяцца ад смеху:

— Дык гэта ж наша сястрыца анучніцай зрабілася. Ой, не ашукаеш ты Крата, а ён з цябе ўвесь век будзе кпіць.

Узмахнула Сава крыламі, нічога нікому не сказала і паляцела ў чужы далёкі лес. Сорамна было ёй жыць у родных мясцінах, слухаць суседскія кпіны.

**Ст. Шушкевіч**



**М. Вышынскі**

# Алька і Лесавінка

Бацька Алькі працаваў лесніком. Каля самай хаты быў узлесак, а далей — лес, лес — хадзіць не перахадзіць.

Дзяўчынка разгарнула альбомчык для малявання. Ёй аставалася падрыхтаваць адзін урок. „Што ж намаляваць? — задумалася Алька. — Тэма вольная...“

Ёй нічога цікавага не прыходзіла ў галаву. Думкі дзяўчынкі займала ласяня Лесавінка...

Была зіма. За акном выла завіруха. Алька адхукала ў замёрзлай кухоннай шыбе „акенца“ і пазірала ў сад. Дыміліся пры плоце сумёты, чарнелі голыя дрэвы. Усюды снег ды снег — на зямлі і над зямлёй. І Алька ўявіла, што сумёты ў садзе не проста сумёты, а звярыныя хаты. Вялікія — мядзвежыя, меншыя — воўчыя, лісіныя і заечыя. Цёпла там звярам і звяркам. Яны ўсе паснулі. І бачацца ім лясныя сны — якія дзіўныя ў іх сны! Але што гэта? Шырока матляліся вароты на загуменні, і Алька ўбачыла... ласіху, высокую, гарбаносую, з ласянём. Яна аж спалохалася ад такой нечаканасці, разбудзіла тату.

Яны выйшлі хуценька ў сад.

Ласіха стаяла абледзянелая і змучаная. Парэзаныя ногі яе крывавілі. Яна цяжка дыхала, пена злятала з яе губ. Ласяня, невялічкае, падласае, ледзь трымалася на тонкіх ножках: усё тулілася да матчынага боку, закочвала пад лоб цёмныя бліскучыя вочкі. Голад, стома і раны прыгналі іх да чалавека. Да яе, Алькі.

— Ах, бедалагі, — завохкаў тата. — Пэўна ж, на Доўгіх Крыніцах пакупаліся... Вада там слаба замярзае... І пакалечыліся аб лёд ды ледзяшы. Як толькі ласяня ўратавалася?!

Яны тады прынадзілі ласёў у хлеў — бацьку гэта было не ўпершыню. Ён агледзеў ласіху, перавязаў ёй раны, даў сена. Маці замяшала цёплага пойла. Толькі ласяня не ўзяло есці, як Алька ні ўпрошвала яго. Тады дзяўчынка разаслала ў закуце саломку. Ласяня лягло, і Алька накрыла яго старым кажухом.

На другі дзень непагадзь перасціхла і ласіха, абагрэўшыся і ачуняўшы, падалася ў лес. Перад тым яна пакруцілася ля хлява, звала ласяня. Але яно не падымалася — толькі ціхенька адазвалася на голас маці.

З таго дня ласяня стала жыць у хляве.

Алька клапацілася аб ім. Яе ціхае лясное жыццё з гэтага часу нібы асвяціла веснавое сонейка. Бывала, толькі прачнецца, адразу бяжыць у хлеў: як там маецца яе лясны гадаванец? І корміць-поіць яго, забаўляе. А пасля школы — Алька тады была яшчэ трэцякласніцай — яна зноў каля свайго выхаванца.

— Бялячачка ты мая, не сумна табе тут адной? — як ластаўка, шчабятала дзяўчынка. — Ну еш, еш... Табе трэба есці, папраўляцца хутчэй.

У ласяняці была белая пушыстая зорачка на лбе, белая грудзінка і белыя ножкі. Таму Алька і празвала яе Бялянкай.

Першымі днямі Бялянка дзічылася дзяўчынкі, часам і есці не брала — усё клікала сваю маці,

тужыла па ёй, па лесе. Тады і паявілася ў яе другое, галоўнае імя — Лесавінка.

Праз некаторы час Лесавінка прывыкла да Алькі, стала яе пазнаваць і адклікацца на сваё імя. Здаралася, як толькі пачуе дзяўчынку ў сваім куточку, усхоплівaецца, пацешна бегае па хляве, падскоквае, ускідваючы белыя ножкі. Алька тады аж заходзілася ад смеху.

Лесавінка ўвачавідкі папраўлялася.

Ласіха, аднак, не забывалася на яе. Ледзь не кожны дзень пад ве-



чар яна прыходзіла да хлява. Пастуквала капытамі ў сцяну, ціха памыквала. Лесавінка сцішвалася, нібы штосьці прыпамінала... Потым у неспакоі бегла да дзвярэй, торкалася ў іх галоўкай. Але Алька на двор яе не выпускала — не дазваляў тата, бо Лесавінка была яшчэ слабая.

Пераначаваўшы на падворку ноч, ласіха пад раніцу сыходзіла ў лес.

Міналі дні. Увесну Алька з татам нарэшце выпусцілі Бялянку на падворак. К таму часу яна прыкметна падрасла, падужэла. Гарэзліва пабрыкваючы, яна пакружылася па садзе, затым выбегла на загуменне, на ўзлесак. Алька кінулася ўслед за ёй...

Радасць ад волі і прастору не мясцілася ў Бялянцы-Лесавінцы. Яна то кідалася ў лес, то хуценька, як спахапіўшыся, вярталася да Алькі, а то насілася вакол яе.

— Ой, даганю, не ўцячэш! — крычала дзяўчынка і бегла да яе.

Алька ззяла ад шчасця. Яе залівісты смех рассыпаўся шматгалосым рэхам, каціўся далёка па лесе. У гэты час на ўзлеску паказалася ласіха. Лесавінка раптам спынілася. Алька змоўкла.

Ласіха радасна мыкнула, падбегла, абнюхала Лесавінку. Ласяня неўзабаве стрыганула вушкамі і пацерлася галавой аб яе бок — пазнала маці.

Нечакана ласіха баднула ласяня, пераскочыла праз высокі пень і накіравалася на лясную дарогу. Лесавінка кінулася за ёй, але тут жа спынілася, павярнулася да Алькі.

— Не хадзі ў лес, хадзем за мной, Бяляначка, — дрыготкім голасам паклікала Алька. У вачах яе заблішчалі слёзы.

Ласіха нецярпліва мыкнула на дарозе. Лесавінка крутнулася і пабегла да яе. На ўзлеску стала пуста і ціха.

— Забягай, Бяляначка, да нас... Не забывайся на мя-не-е! — закрычала Алька і заплакала.

— Не трэба, дачушка, плакаць. — Да яе падышоў тата. — Вернецца яна, от пабачыш.

Доўга сумавала па лясной сяброўцы дзяўчынка, нават бачыла яе у сне.

...Алька схамянулася: яна ж яшчэ нічога не намалявала. Што ёй намаляваць? Ага, яна намалюе Лесавінку... Лесавінку і сябе. Ой, як слаўна: Бялянка будзе стаяць у садку і карміцца з яе рук мурожным сенам.



ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ





## БУСЕЛ

Па высокай ярка-зялёнай траве паважна і маўкліва ходзіць бусел. У яго вострая і моцная дзюба чырвонага колеру. Доўгія ногі таксама чырвоныя. А сам ён — белы, толькі канцы вялікіх і шырокіх крылаў чорныя.

Бусел не мае голасу. Ён не крычыць, а клякоча — гучна і часта шчоўкае сваёй дзюбай.

Гняздзіцца бусел недалёка ад чалавека, часам нават на даху будынка ці на старым дрэве, што расце на вясковым двары. Кожную вясну бусел звычайна вяртаецца на сваё старое месца. Ён амаль зусім не баіцца людзей.

Гняздо ў бусла вялікае. Яно складзена з галля. З кожным годам гняздо робіцца ўсё большым і вышэйшым. Унутры яно выслана травой, саломай, пер'ем. Кожную вясну буслы кладуць новую падсцілку. У красавіку ў гняздзе з'яўляецца чатыры-пяць яек.

Калі самка сядзіць у гняздзе, самец прыносіць ёй з лугоў і балот корм — змей, жаб, мышэй, пацукоў, чарвякоў, лічынак насякомых. Малыя бусляняты вылупліваюцца з яек у маі.

Мне давялося наглядаць сямейства буслоў, якое пасялілася на даху двухпавярховага паляўнічага дома, у якім я жыў у паркавым лясніцтве Белавежскай пушчы. У гняздзе было чацвёра бусляняг. Бацькі дбайна даглядалі сваіх дзяцей. Яны па чарзе часта прыносілі буслянятам корм. У сонечныя спякотныя дні старыя буслы махалі над малымі крыламі, каб буслянятам не было горача, засланялі іх ад сонца і апырсквалі вадой, якую прыносілі ў дзюбах з сажалкі.

Сваіх птушанят буслы кармілі ў гняздзе каля двух месяцаў. Пад восень, калі малыя выраслі і навучыліся лятаць, яны ўсе разам далучыліся ў пойме ракі Нараўкі да іншых буслоў, якія сабраліся з усяго наваколля.

На шырокай паляне каля мястэчка Белавежа пасвіліся коні, а паміж імі важна хадзілі, збіраючыся часам у купкі, маўклівыя буслы. Ствaралася ўражанне, быццам яны прыляцелі сюды з усіх бакоў на нараду, на абмеркаванне плана вялікага падарожжа, якое павінна распачацца ў недалёкім будучым.

**В. Вольскі**



# У гарцэрскай сям'і

Дні ад 7 да 9 мая, дні гарцэрскага алерту, былі днямі напружанай працы і ў Пачатковай школе № 3 у Бельску. Першы дзень прайшоў пад лозунгам „Свет, у якім мы жывем". На агульным сходзе дзеці пазнаёміліся з заданнямі сёлетняга алерту, а потым абмяркоўвалі жыццё дзяцей у іншых краінах і пісалі пісьмы аб тым, што хочуць, каб на ўсёй зямлі дзеці мелі спакойнае і радаснае дзяцінства. Усе гэтыя пісьмы будуць высланы ў Агульнапольскі Камітэт абаронцаў міру ў Варшаве.

Другі дзень алерту прайшоў пад знакам спорту і грамадскай працы. Зухі спаборнічалі ў спрытнасці і сіле, а гарцэры з бельскай „тройкі", каля 130 чалавек, працавалі ў бельскім парку моладзі і ў іншых месцах горада.

Трэці дзень алерту прыпадаў на Дзень Перамогі. У школе адбылася сустрэча з удзельнікам II сусветнай вайны Віктарам Баброўскім, які расказваў дзецям пра свой ваенны шлях, пра барацьбу з нямецкімі захопнікамі. Затым адбылася мастацкая частка, а пасля яе гарцэры склалі вянкі і кветкі на месцах народнай памяці. Там таксама гарцэры неслі ганаровыя варты. Зухі паклалі вянкі на магілах савецкіх воінаў. Потым у школе паказвалі кінафільмы на ваенныя тэмы.

Гарцэрскі шчэп пры школе № 3 складаецца з адзінаццаці дружын. Немалая і сям'я зухаў. Спорыцца ў іх праца. У мінулым годзе дзве дружыны гарцэраў былі адзначаны ганаровым званнем штандаровых дружын, а дзве дружыны зухаў — званнем майстэрскіх дружын. Сёлета аж шэсць дружын стараецца атрымаць гэткае званне. Вялікія дасягненні маюць таксама ў розных спаборніцтвах і конкурсах. У гэтым годзе занялі другое месца ў ваяводстве ў турніры грамадскіх ведаў. Ва ўзнагароду за гэта пяць гарцэрак — удзельніц ездзіла на прыгранічную сустрэчу з літоўскімі піянерамі.

Гарцэры з „тройкі" занялі таксама першае месца ў горадзе ў турніры супрацьпажарных ведаў, а зухі былі найлепшымі ў зуховым шматбор'і спраўных.

Апрача конкурсаў ды спаборніцтваў гарцэры і зухі гэтай школы ўдзельнічаюць у збіранні лому і макулатуры, шмат працуюць грамадскім чынам. У гэтым годзе за сабраную макулатуру зарабілі амаль 7000 злотых. З гэтай сумы 800 злотых прызначылі на будову карабля „Дар моладзі" і на Цэнтр здароўя дзіцяці.

Хутка канікулы. Вучні раз'едуцца хто куды. Адны ў лагеры, іншыя пойдуць у падарожжы. Усім ім жадаем прыемнага і ўданага адпачынку.

**М. Шаховіч**

## Пазнаёмімся

Андрэй Лешчук, вучань сёмага класа, в. Шымкі 132, пошта 16-051 Шымкі, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Галіна Усціновіч, вучаніца сёмага класа, пошта 16-053 Юшкаў Груд, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Эдвард Шаркоўскі, вучань сёмага класа, в. Шымкі 36, пошта 16-051 Шымкі, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Іра Гайдучэня, вучаніца сёмага класа, в. Шымкі 65, пошта 16-051 Шымкі, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Мажэна Лукша, вучаніца сёмага класа, в. Рыбакі 2, пошта 16-053 Юшкаў Груд, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, г. Москва, ул. Байкальская, дом 41, кор. I, кв. 4. Таня Лопырёва. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

СССР, 107497, г. Москва, Щёлковское шоссе, дом 89, кор. 3, кв. 494, Денисову Виталику. Хлопчык вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

БССР, 231615, Гродзенская вобл., Мастоўскі раён, в. Мілявічы. Маліноўскай Людміле. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ✲ *

СССР, 107529, г. Москва, ул. Байкальская 50-1-80, Новикову Кирилу. Хлопчык вучыцца ў шостым класе.




**Кожнаму хлопчыку, азначанаму літарай, адпавядае хлопчык, азначаны лічбай. Прыгледзься ўважліва да рук і ног на малюнках і скажы, якім літарам адпавядаюць якія лічбы.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**